# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 43 (2237)

24 кастрычніка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


# ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА

**Загаловак "Гарачы жнівень 1991 года" на 7-й старонцы ўжо становіцца рубрыкай, пад якой на працягу некалькіх месяцаў вы зможаце прачытаць серыю матэрыялаў журналісткі Тацяны АНТОНАВАЙ, якая сёлета пабывала ў гасцях у нашых суайчыннікаў у ЗША.**

Да апошняга моманту, пакуль не села ў самалёт, які кіраваў на Нью-Йорк, не была ўпэўнена, што праведу свой адпачынак за акіянам. Надта ўжо цяжкая гэта справа ў нашай краіне — паехаць па прыватных запросінах да знаёмых у ЗША! Пакуль аформіш усе паперы, атрымаеш візу... Ды што там усе пакуты і бюракратычная цяганіна ў параўнанні з загадкавай Амерыкай і магчымасцю сустрэцца там з нашымі суайчыннікамі, пра якіх неаднойчы пісала, калі яны прыязджалі ў Беларусь. І чалавечая, і прафесійная цікаўнасць няўмольна падштурхоўвала пераадолець усе перашкоды.

Гарачы жнівень 1991 года. У Нью-Йорку спякота невыносная, пад 40 градусаў. Нават дыхаць цяжка. Спадарыня Ала Орса-Рамана, кіраўнічка танцавальнага калектыву "Васілёк", якая запрасіла мяне, летам мела адпачынак (заняткі ва універсітэце, дзе яна выкладае хімію, павінны пачацца толькі ў верасні). "Што ты хацела б убачыць і з кім сустрэцца? — адразу запыталася яна. — Я склала для цябе праграму: пойдзем у музей сучаснага мастацтва, паедзем на Ніягару, у Вашынгтон — там пераначуем у Алесі Кіпель і наведаем у Рочэстэры Наталлю Арсенневу. Я ўжо з ёй дамовілася; у Саўт-Рыверы будзе выстаўка нашых мастачак, у Нью-Брансвіку пазнаёмішся з Галінай і Васілём Русакамі, наведаем Надзю Кудасаву, выдатную майстрыху. Паглядзім наш Полацак, сходзім у нашыя цэрквы..."

І закруцілася кола падзей. Ледзь толькі ўцягнулі мае валізкі з сувенірамі ў дом на Лонг Айлендзе (раён гэты прэстыжны, дарагі, забудаваны двух-, трохпавярховымі катэджамі, знаходзіцца ўдалечыні ад тлумнага цэнтра), дзе жыве спадарыня Ала з сям'ёй, як завітала яе сяброўка Вера Заморская, пазней падышлі Янка Запруднік з дачкой Верай, прыехалі з працы Віця Тур і сыны Алы — Коля і Павал, далучыўся муж гаспадыні Франэк Рамана, не дачакаліся наступнага дня Валянціна Пархоменка і Аляксандр Казак, якія ў сувязі з хваробай дачкі ўжо год у ЗША...

Першы вечар у Амерыцы, за сяброўскім сталом. Людзі гаманілі, узбуджаныя з'яўленнем госці з Беларусі, распытвалі пра знаёмых, бясконца падкладвалі на талерку, даведаўшыся, што ў нас не густа з ежай. Мы то смяяліся, то плакалі ад радасці, быццам былі найбліжэйшымі сваякамі.

Вопыт першых нашых з Алай азнаямленчых вандровак па Нью-Йорку, калі мы сутыкнуліся з праблемай паркавання машыны, прымусіў прадумваць кожную драбязу: куды едзем, дзе спыняемся, з кім сустракаемся, калі вяртаемся. Сэрца маё рвалася на часткі: хацелася пагуляць па цэнтру Нью-Йорка, асляпляльна прыгожаму, паназіраць за людзьмі ў вольным свеце, якія не маюць комплексаў ні ў манеры апранацца, ні ў сваіх паводзінах, выключна лагодныя і ўважлівыя адзін да аднаго, з'ездзіць на акіян, пасядзець недзе ў бары, словам — расслабіцца, адпачыць ад працы ў газеце. Але над чалавечым гэтым жаданнем увесь час брала верх прафесійнае: лепш пазнаёміцца з нашай эміграцыяй, зразумець, як яны тут жывуць, як застаюцца беларусамі, чаму і за што ў сябе на радзіме іх доўгі час агулам запісвалі ў ворагі і здраднікі; што адбывалася на нашай зямлі ў часы фашысцкай акупацыі, калі адны пайшлі ў партызаны, а другія — у атрады самааховы, як і чаму паехалі з роднага краю.

Афіцыйная наша гісторыя многае замоўчвала альбо трактавала падзеі і факты аднабока і тэндэнцыйна. Толькі з пачаткам перамен мы змаглі тое-сёе даведацца і пра беларусізацыю, і пра расправу з "нацдэмамі", і пра рэпрэсіі, учыненыя над нявіннымі людзьмі. У кожнага свая праўда ў гісторыі. Дасюль мы ведалі толькі адну праўду. А якая ж праўда такіх самых, як і я, беларусаў, што, трапіўшы ў вір гісторыі, апынуліся ў выніку на другім беразе ці, больш дакладна, між берагамі?

Кожны дзень я мела цікавыя сустрэчы, пабывала практычна ва ўсіх асноўных асяродках беларусаў у Амерыцы. Некаторыя землякі, асабліва старэйшага веку, паводзілі сябе даволі насцярожана, даведаўшыся, што я працую ў "Голасе Радзімы", у той самай газеце, якая ў свой час актыўна папрацавала на выкрыццё "здраднікаў".

"Дачушка, паслухай, як яно ўсё было, і ты зразумееш..." Я слухала іх споведзі, запісвала на стужку, спадзеючыся выкарыстаць потым у матэрыяле. Не стрымліваючы пачуццяў, жадання выказаць даўно затоены боль ад несправядлівых крыўд, яны ў запале шмат чаго расказвалі, а з раніцы, спахапіўшыся, тэлефанавалі: "Нічога не пішыце пра мяне, закрэсліце ўсё, бо баюся, што гэта пашкодзіць сваякам на радзіме". Жыццё прывучыла іх да асцярожнасці. "Ды што вы, — спрабавала пярэчыць я, — вы ўжо даўно не былі на Беларусі, цяпер не тыя ўжо часы..."

Я зразумела іх вельмі добра 19 жніўня, калі з раніцы па тэлебачанні перадалі пра падзеі ў Савецкім Саюзе, паказалі танкі на вуліцах Масквы. Ашаламляльная гэта інфармацыя прымусіла мяне пахаладзець.

Гарачы жнівень 1991 года... Тры дні Амерыка не адыходзіла ад тэлевізараў. А сітуацыя мянялася штогадзінна, і ніхто не мог ведаць, чым усё гэта скончыцца. Нехта, бывала, не вытрымліваў і пачынаў заказваць па тэлефоне Мінск. Але Мінск маўчаў, упарта маўчаў. Ад невядомасці можна было звар'яцець.

З далечыні, з-за акіяна, мы маліліся за сваю радзіму, за сваякоў і родных, за ўвесь наш народ, на долю якога выпала так шмат выпрабаванняў.

Бадай што, шокам стала чарговая вестка пра абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Тэлефанавалі адзін аднаму, яшчэ не верачы да канца пачутаму, абмяркоўвалі, выказвалі здагадкі і... святкавалі.

Багатая і прыгожая краіна Амерыка. Цяпер ты ўжо не чужая і не невядомая. Вельмі зблізку давялося ўбачыць, як заможна і годна жывуць тут мае землякі. Пачуваюцца людзьмі. Шмат працуюць. Трымаюцца адзін аднаго. Захоўваюць мову, традыцыі і звычаі свайго народа. Толькі дзякуючы ім, напэўна, і ведаюць у Амерыцы, што ёсць такая краіна Беларусь. Шмат чаго робяць, каб дапамагчы сваёй зямлі ў чарнобыльскай бядзе.

...Я вярталася ў сваю бедную, спакутаваную краіну ўжо грамадзянкай незалежнай Беларусі. З надзеямі, з верай у тое, што цяпер усё пойдзе інакш. Гэтак спяшалася. На чыгуначным вакзале, пабеларуску растлумачыўшы вадзіцелю, куды ехаць, пачула рэзкае: "Националистов не возим!" Дзверцы бразнулі перад носам, і я з валізкамі засталася на дарозе.

Спадзяюся, што мае артыкулы, нататкі, інтэрв'ю і рэпартажы, напісаныя пасля паездкі ў Амерыку, будуць уяўляць цікавасць для чытача. Выказваю ў іх свае асабістыя погляды, якія, мяркую, не заўсёды будуць супадаць з агульнапрынятымі. Сёння для вас — сустрэча з Наталляй Арсенневай.

Тацяна АНТОНАВА.



Рытуал вянчання, бадай, такі ж старажытны, як і хрышчэнне. У ім для людзей асаблівая значнасць — таінства злучэння лёсаў. Ці не таму ў апошнія гады маладыя пары ўсё часцей прыходзяць менавіта ў храмы асвяціць свой саюз — на даўгавечнасць і ўзаеморазуменне, на любоў і вернасць. Толькі ў гэтым годзе каля тысячы пар павянчаліся ў цэрквах Брэста.

НА ЗДЫМКУ: вянчанне ў Свята-Сімяонаўскім саборы Брэста.

Фота Э. КАБЯКА.



РАХМАНАСЦЬ БЕЛАРУСА ДА ПАРЫ, ДА ЧАСУ

# АДРАС СТАЧКОМА — ПЛЯЦ ВОЛІ

**Сустрэча з Сяргеем АНТОНЧЫКАМ, лідэрам беларускага рабочага руху, дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, з першага разу не адбылася: яго чакала камандзіроўка ў Польшчу. Але і ў мяне з'явіўся час, каб яшчэ раз падумаць, успомніць сёлетняе 2 красавіка, калі пра гэты рух даведалася ўся краіна.**

**Павышэння цэн чакалі. Першага красавіка паліцы магазінаў апусцелі. Куплялі патрэбнае і не вельмі, галоўнае, каб па старых цэнах. На наступную раніцу ў магазіны заходзілі са страхам і надзеяй. Баяліся, і не без падстаў, убачыць новыя непрымальныя для звычайнай сям'і цэны. Спадзяваліся, бо хацелася верыць: няхай па дарагой цане, але можна будзе купіць самае неабходнае. Такіх чакала жорсткае расчараванне — замест мяса з вітрын магазіна скаліліся свіныя галовы, толькі значна больш дарагія, чым раней.**

**Усплеск народнага гневу быў немінучы, аднак наўрад ці хто думаў тады, што адбудзецца ён у больш-менш спакойнай Беларусі, якая нават у гэты крывавы і вар'яцкі час здавалася мірнай, населенай спагадлівымі і цярплівымі людзьмі. Але пра тое, чым можа абярнуцца гэтая ўяўная рахманасць, памяркоўнасць, папярэджвала наша шматвяковая гісторыя, а таксама выдатны беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч: "...рахманасць беларуса таксама да пары, да часу. Пяройдзеш мяжу — і тваім ворагам будзе страшны чалавек. Страшны асабліва тады, калі гнеў яго спакойны і разлічаны".**

**2 красавіка мяжа цярпення беларускага народа была пяройдзена. Тады ў многіх узнікала пытанне: "Чаму Беларусь? Там жа жыццё было яшчэ не самым горшым у краіне?" Пры сустрэчы з С. Антончыкам я задала яму менавіта гэта пытанне.**

— Думаю, — адказаў Сяргей Антонавіч, — справа ўсё-такі ў Чарнобылі. Людзі і так стаміліся жыць разам са сваёй бядой, а тут яшчэ гэтае павышэнне цэн. Колькі ж можна цярпець? Вось і адбыўся сацыяльны выбух.

**Так, за пяць з паловай гадоў у нас накапіліся не толькі радыенукліды, але і боль, крыўда, а калі хочаце, то і злосць. За што? Чаму менавіта мы? Шэсць гадоў мы просім аб дапамозе, шэсць гадоў пакутуе зямля, мучацца людзі, паміраюць дзеці. Усё па-ранейшаму, і нават горш. У тыя дні мне іншы раз здавалася, што не натоўпы людзей, а боль наш затапіў вуліцы беларускіх гарадоў.**

— Да другога красавіка рабочы рух у Беларусі ўсур'ёз аб сабе не заяўляў, — працягваў С. Антончык. — Але калі рабочыя спынілі работу, на прадпрыемствах былі аператыўна створаны стачачныя камітэты, выстаўлены шэраг патрабаванняў. Мы былі да гэтага гатовы. Спачатку былі выстаўлены эканамічныя патрабаванні — павышэнне зарплаты і кампенсацый, а таксама зніжэнне цэн на тавары. Паступова, не будучы задаволенымі, эканамічныя патрабаванні сталі перарастаць у палітычныя, галоўным з якіх быў роспуск Вярхоўнага Савета БССР. Аднак, нягледзячы на тое, што мы папярэджвалі рабочых, што ім проста кінуць кавалак хлеба, дабавяць грошай, якія хутка з'есць новы віток інфляцыі, палітычная частка была прайграна. І тым не менш, у гэтыя дні здараліся дзіўныя рэчы. Нас гэтак жа, як і БНФ, вельмі доўга не хацелі рэгістраваць як грамадскую арганізацыю. Дык вось, пасля падзей другога красавіка адбыўся беспрэцэдэнтны выпадак: урад сеў за стол перагавораў з афіцыйна незарэгістраванай арганізацыяй. Мы прымусілі лічыцца з намі.

**Так, тады яны прымусілі лічыцца з сабой, хаця і не змаглі на той момант дабіцца свайго. Іх лозунг недавер'я Вярхоўнаму Савету, як сіле, няздольнай рэальна дапамагчы народу і абараніць яго інтарэсы, пацвердзілі жнівеньскія падзеі. Няўдалы путч 19 жніўня 1991 года многае расставіў па сваіх месцах...**

*— Як вы лічыце, ці магчыма вырашыць праблемы, што стаяць перад рабочым рухам, парламенцкім шляхам, не прыбягаючы да крайніх мер, такіх, як, напрыклад, забастоўкі?*

— Думаю, што не, таму [illegible] вывады з няўдалага путчу зраб[illegible] не толькі перамогшыя дэмакраты, але і прайграўшыя камуністы. Нягледзячы на тое, што дзейнасць партыі прыпынена, партыя працягвае існаваць і дзейнічаць. Страціўшы ўладу, партыйныя функцыянеры хутка перафарбаваліся ў функцыянераў урадавых, каб зноў атрымаць магчымасць кіраваць. І партыйна-гаспадарчая наменклатура зразумела, што адзіная магчымасць гэтую ўладу ўтрымаць — хуценька прыбраць да рук былую партыйную маёмасць. Чаму сёння па-ранейшаму тармозіцца прыняцце законаў аб прыватызацыі? Былая КПСС, адцягваючы гэты працэс, імкнецца любымі шляхамі захаваць свае сродкі, і ўсе нашы спробы прыпыніць гэты працэс і, нарэшце, праз 73 гады ажыццявіць галоўны лозунг перамогшага пралетарыяту, аддаўшы заводы рабочым, а зямлю сялянам, натыкаюцца на моцнае процідзеянне. Лічу, што трэба як мага хутчэй перавыбраць парламент, каб адсеяць камуністычную большасць.

*— Паколькі ў нас зайшла размова аб прыватызацыі прадпрыемстваў, як вы ставіцеся да гэтага працэсу?*

— Я лічу, што не заўсёды гэта будзе дабром. Не варта забываць, што нашы прадпрыемствы сёння знаходзяцца далёка не ў аднолькавых умовах, тут, як у людзей, ёсць багатыя, а ёсць і бедныя. І калі прыватызаваць буйное прадпрыемства, ну, напрыклад, Мінскі завод халадзільнікаў, прадукцыя якога карыстаецца попытам і ідзе на экспарт, то, думаю, там пакрыўджаных не будзе. Але не трэба забываць, што ён жыве, існуе за кошт вялікай колькасці прадпрыемстваў меншых, якія пастаўляюць яму камплектуючыя і дзе справы могуць ісці далёка не так бліскуча. Так што ўсеагульная прыватызацыя можа толькі пагоршыць матэрыяльную няроўнасць у грамадстве.

*— А якую пазіцыю вы займаеце ў адносінах да афіцыйных прафсаюзаў? Ці спрабавалі вы знайсці з імі агульную мову?*

— Такія спробы былі. Але сама структура савецкіх прафсаюзаў такая, што яны павінны адначасова абараняць інтарэсы як простых рабочых, так і адміністрацыі. Таму вельмі часта бывае, што прафсаюзная арганізацыя выконвае "заказы" адміністрацыі на шкоду інтарэсам працоўных. Акрамя таго, ледзь ці не палову галіновых прафсаюзаў узначальваюць былыя першыя, другія сакратары райкомаў і гаркомаў партыі, якія селі ў гэтыя крэслы не для таго, каб абараняць інтарэсы рабочых, а каб працягваць існаваць у той сістэме. Дамовіцца з імі аказалася немагчыма.

*— Вы толькі што вярнуліся з Польшчы. Як вы лічыце, ці можа быць карысны для нас вопыт польскай "Салідарнасці"?*

— "Салідарнасці" спатрэбілася дзесяць гадоў для таго, каб з палітычнай арганізацыі стаць сапраўдным прафсаюзам. Уласна, гэта тое, да чаго імкнёмся і мы, бо галоўная наша задача — абарона правоў рабочых. Але за дзесяць гадоў работы польская "Салідарнасць" першай змагла прабіць брэш у сістэме сацыялізму, і сёння яе лідэр Валенса стаў кіраўніком дзяржавы. Вядома ж, нам лягчэй, таму што мы ўжо не першыя і можам у нечым выкарыстаць іх вопыт. Але ў нечым было лягчэй і "Салідарнасці" — іх падтрымлівала царква і інтэлігенцыя. У свой час мы таксама звярнуліся за дапамогай да беларускай інтэлігенцыі. Я хадзіў па інстанцыях і універсітэцкіх аўдыторыях, тлумачыў, што нам неабходна дапамога і падтрымка кваліфікаваных юрыстаў і іншых спецыялістаў, патрэбна метадалогія рабочага руху, прасіў прыйсці да нас на сустрэчу, запланаваную ў Доме літаратара. Тады ж апублікавалі запрашэнне з заклікам аб дапамозе ў рэспубліканскай маладзёжнай газеце "Знамя юности". На сустрэчу прыйшло 20—30 чалавек, якіх мы і раней ведалі па БНФ.

**Чамусьці ўспомнілася, як рабочыя ў пачатку красавіка ішлі па вуліцах. Гэта былі ўжо не тыя людзі, якія раўнадушна слухалі, як шматлікія начальнікі ад іх імя запэўнівалі з высокіх трыбун партыю ў любві і адданасці. Ні на адну першамайскую дэманстрацыю яны не выходзілі так масава і дружна, ніколі я не бачыла столькі людзей на вуліцах Мінска. І ведаеце, іншы раз гэта было нават страшна. І вельмі важна было іх арганізаваць, растлумачыць, стрымаць, словам, надаць гэтаму выступленню арганізаваны характар. На гэты раз, дзякуй Богу, удалося.**

*— Як вы думаеце, ці магчыма паўтарэнне красавіцкіх падзей?*

— Я думаю, што існуючая сістэма будзе рабіць усё для таго, каб адтэрмінаваць такія выступленні, прычым, самым простым спосабам — друкаваць новыя грошы. Гэта будзе працягвацца, пакуль людзі не прывыкнуць да таго, што грошай многа, але купіць на іх нічога нельга і абясцэньваюцца яны з кожным днём. І вось калі рабоч[illegible] гэта зразумеюць, а галоўн[illegible]дчуюць, вось тады і могуць [illegible]чацца новыя выступленні. Прычым, чым далей яны адкладваюцца, тым страшнейшымі могуць быць. Цяжка цяпер прагназіраваць сітуацыю, але думаю, што новыя выступленні, як бы гэт[illegible]чэй сказаць, будуць насіць м[illegible] цывілізаваны характар, чым красавіцкія. Да таго ж, тады рабочыя дакладна ведалі, хто іх вораг, і гнеў іх быў накіраваны на партыю, а сёння, калі выступленні будуць, яны змятуць усіх — і правых, і левых, і былых камуністаў, і не апраўдаўшых надзеі дэмакратаў. Вынікі могуць быць самымі разбуральнымі. Успомніце хаця б нядаўнія выступленні румынскіх шахцёраў...

**Уласна, на гэтым артыкул можна было б закончыць, але мне нечага не хапала. Не, не матэрыялу, а рэальных людзей, тых, хто ў красавіку вывеў на вуліцы рабочых, выставіў дакладныя патрабаванні. Якія яны, ды і ці былі ўвогуле? Рознае тады гаварылі — і што спявалі яны з чужога голасу, і што палітычна неадукаванымі, няздольнымі прыняць самастойнае рашэнне рабацягамі нехта ўмела кіраваў, ды і цвярозых сярод іх, хадзілі чуткі, было нямнога... Словам, я адправілася ў мінскі стачком. Займае ён усяго два невялікія пакоі ў доме на пляцу Волі. У адным з пакояў адбылася наша размова, якую мне зусім не хочацца называць інтэрв'ю, таму што члены і старшыні стачкомаў мінскіх заводаў проста расказвалі пра сваё жыццё і пакуль яшчэ не вельмі доўгую гісторыю, а я слухала і не перабівала.**

**З іх расказаў я даведалася, як у старшынь стачкомаў зусім яшчэ нядаўна парткомы патрабавалі спісы членаў іх камітэтаў. Расказалі мне, што на Мінскім трактарным заводзе ў дні путчу ў цэху шырспажыву збіралі наручнікі. Сенсацыя? Так. Калі, вядома, не браць пад увагу, што заказ гэты быў атрыманы заводам амаль год назад. А наручнікі — рэч патрэбная нават у краінах Захаду: хуліганы і мярзотнікі, на жаль, існуюць пры любым узроўні дэмакратыі... Сенсацыі не атрымалася, і дзякуй Богу.**

**Яны гаварылі, а я слухала і глядзела на іх рукі, таму што рукі іншы раз могуць расказаць больш, чым іх гаспадары. Пра рабочыя рукі паэты ў нас складалі вершы, ні адно святочнае пасяджэнне не абыходзілася без гімнаў у іх гонар. У святочныя прэзідыумы запрашалі і рабочых, а яны займалі, бывала, і высокія кабінеты, і з іх рук паступова сыходзілі мазалі, адмывалася прафесійная чарната пад пазногцямі.**

**З рук людзей, з якімі я гутарыла, мазалі не знікнуць ніколі, таму што іх прэзідыум і трыбуны — вуліцы і плошчы, іх кабінеты — цэхі родных заводаў, іх узнагароды — павесткі ў пракуратуру, якія той-сёй з іх перастаў рэгулярна атрымліваць толькі пасля 19 жніўня. Дарэчы сказаць, ніхто з іх, нягледзячы на настойлівыя парады кіраўніцтва заводаў, не здрадзіў сваёй справе ў гэтыя дні, калі ўсё было так незразумела і страшна, калі цяжка было разабрацца, дзе чужыя, а дзе свае, таму што пазіцыі людзей часам мяняліся хутчэй, чым надвор'е капрызнай беларускай восенню. Якая яна, іх справа? Адказ на гэтае пытанне я знайшла ў зробленым адным з маіх субяседнікаў, Аляксандрам Галькевічам, "каментарыі да праекта калектыўнага дагавора": "Кожны з нас задаваў напэўна сабе пытанне: ці будзем мы жыць нармальна? І ці будзем увогуле жыць?" Будзем! Толькі трэба прымусіць лічыцца з сабой і паважаць сябе. Для таго і жывём!**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ЯК РАТАВАЦЬ ВЁСКУ АД ГАЛЕЧЫ?

# АГРАБРОКЕРЫ — ГЭТА НЕШТА НОВАЕ

У Беларусі створана акцыянернае таварыства "Беларуская аграпрамысловая біржа" ( АТ "Белаграпрамбіржа"). Заснавальнікамі яе сталі 80 буйнейшых вытворцаў і перапрацоўшчыкаў сельгаспрадукцыі ў рэспубліцы. Устаўны фонд — больш 4 мільёнаў рублёў. "Белаграпрамбіржа" мае намер працаваць па некалькіх напрамках: сельскагаспадарчая прадукцыя і харчовыя тавары, сельскагаспадарчая тэхніка і абсталяванне, сыравіна і матэрыялы. Па кожнаму з напрамкаў таргі будуць ажыццяўляцца ў сваім сектары. Акрамя таго, створаны сектар аўкцыёнаў, аб'ектамі продажу ў якім стануць арыгінальныя сельскагаспадарчыя тэхналогіі, якія распрацоўваюцца ў даследчых інстытутах.

Чым выклікана нараджэнне біржы? На гэтае пытанне адказвае сустаршыня біржавога савета **Аляксандр ДЗЯХЦЯР.**

**— Рынак канчаткова не ўведзены,** але асновы яго закладзены. Думаю, што адну з галоўных роляў у яго зацвярджэнні ў далейшым павінны адыграць сельскагаспадарчыя структуры. Прамысловасць ужо цяпер мае магчымасць прадаваць сваю прадукцыю ці хаця б частку яе па рыначных цэнах, а сельскагаспадарчыя калектывы аб продажы звышпланавай прадукцыі паводле свайго меркавання толькі мараць. Хаця і прынята на гэты конт нямала добрых і правільных дакументаў. На самай справе прыбытак калгасаў і саўгасаў цяпер катастрафічна змяншаецца (пра гэта многа ўжо гаварылася на ўсіх узроўнях), ідзе занядбанне сяла. Стаўка на фермера таксама пакуль не спраўджваецца.

Вось і вынік. Калі па Беларусі прыбытак у прамысловасці за год вырас у два разы, то ў сельскай гаспадарцы ён рэзка ўпаў. Гэта ненармальная з'ява.

Каб хоць неяк паправіць становішча, Саюз аграрнікаў Беларусі, знайшоўшы разуменне ў Вярхоўным Савеце і Савеце Міністраў рэспублікі, дабіўся таго, што 10 працэнтаў сваёй прадукцыі калгасы і саўгасы будуць рэалізоўваць па свабодных цэнах.

Вядома, можна адкрыць у горадзе ўласныя ларкі, магазіны, універсамы і там прадаваць сельскагаспадарчую прадукцыю. Але для сялян гэта нязручна, і дзе ўзяць абсталяванне, штат прадаўцоў? На якія грошы іх утрымліваць? Больш затраціш, чым атрымаеш прыбытку.

Лепш звярнуцца да паслуг біржы, заключыць дагавор з брокерскай канторай на абслугоўванне і прадаць свае лішкі оптам, па рынакных цэнах, якія вызначаюцца попытам. Таму Саюз аграрнікаў Беларусі вырашыў стварыць Беларускую аграпрамысловую біржу. І вось яна існуе.

— Хто яе заснавальнікі?

— Гэта перш за ўсё Саюз аграрнікаў, Беларускі сялянскі саюз, Беларускі сялянскі ашчадны банк, Белаграбанк, Міністэрства сельскагаспадарчай прадукцыі, калгасы "Рассвет", "Савецкая Беларусь" і інш. У кіраўніцтве біржы 26 чалавек. У рэспубліцы і за яе межамі створана пакуль 150 брокерскіх кантор, якія будуць дзейнічаць пад кантролем савета. Ён жа вызначае і палітыку біржы, умовы для біржавых аперацый. Апрача абаронча-прадстаўнічых функцый, ён, відаць, будзе арбітрам у выпадку канфліктных сітуацый.

**Рыгор КОЛАБАЎ.**




161

Няўжо ён не атрымае іх..." Эх, цяпер-бы прыгожую дзяўчыну, назло Вярхоўскай," — думаў ён. Назло сваім змучаным нагам ішоў бяз мэты па Празе. Начныя жанчыны на кожным кроку сулілі яму сваё каханьне. Ён з жахам уцякаў ад іх. Яны хрыпелі нейкімі мужчынскімі галасамі, яны былі бледныя й страшныя, як сама сьмерць...

Было ўжо каля гадзіны ночы, калі ён пабачыў, што ўсе яго блуканьні й шуканьні жанчыны не дадуць ніякіх вынікаў. Ён павярнуўся дахаты. Шумнае Вацлаўскае намнесьці (Вацлаўская плошча ў Празе) засталося далёка ззаду. Ён выйшаў у далёкі цёмны правулак, злучаўшы шумнае намнесьці з другой шумнай вуліцай. Ішоў, пільна ўглядаючыся ў цемру. У правулку гарэў адзін маленькі газавы ліхтар. Тугоўскі ўглядаўся, каб дзе-небудзь не спаткнуцца. Як раптам ён нават спыніўся ад зьдзіўленьня. Праз самую асьветленую частку перавулка ляцела з голай галавой у аднэй блузцы жанчына. Яна ляцела досыць доўга, й потым, відаць, у яе не хапіла сілы, і яна прытулілася да цёмнай сьцяны дому. "Якая-небудзь трагэдыя, — падумаў Тугоўскі. — Зімой аднэй блудзіць і з голай галавой — гэта што-небудзь знача". Ён пасьпяшыў на дапамогу спыніўшайся жанчыне.

— Што з вамі? — спытаў ён, падходзячы да яе... Жанчына маўчала. Толькі чулася яе парывістае дыханьне. — Што з вамі? — паўтарыў пытаньне Тугоўскі.

— Ох, — толькі праенчыла яна ў адказ. — Ох, мне дрэнна.

— Вы хворая? — спужаўся Тугоўскі. — Што з вамі, кажыце.

— Ох, не магу. Я зараз завалюся. Паглядзіце,

162

як б'ецца маё сэрца.

Ён пачаў шукаць яе сэрца. Алкаголь прымушаў яго качацца, як матроса на параплаве, й пакуль ён рукой папаў на належнае мейсца, прайшло нямала часу. Яна енчыла, пакуль яго рука блукала па яе целу, й нарэшце замоўкла.

— Што з вамі? — яшчэ раз запытаў Тугоўскі, трымаючы руку на яе сэрцы. Яму было прыемна й цёпла ад гэтага дотыку да маладой стройнай, як ён мог прыкмеціць у цемнаце, дзяўчыны. Твару яе ён ня бачыў.

— Я зараз жа пабягу да тэлефону, пазваню за карэтай Чырвонага Крыжа.

— Ох, ня трэба, — праенчыла яна. — Нічога ня трэба... Адвядзіце мяне толькі дахаты.

— З прыемнасьцей, — прамовіў ён. Яна апёрлася ўсім сваім целам на яго руку. Ціхім крокам яна ледзь рухалася побач з ім й цяжка дыхала. Тугоўскі маўчаў. Ён вёў яе, як дарагі скарб, — з сьвядомасьцей важнасьці свайго паступка. Як будуць уцешаны яе бацькі, калі ён прывядзе яе дахаты. Як будуць удзячны яны Тугоўскаму, як будуць паціскаць яму руку, паставяць гарбаты, будуць запрашаць яго, й хто ведае, можа быць ён стане запраўды іх госьцем... Ён увойдзе ў чэскае грамадзянства. Дзяўчына — прыгожая. Ён стаў поўны фантазій й акрыляўшага яго посьпеху. Хутка-хутка ён пабача яе бацькоў.

— Вам далёка яшчэ да хаты? — запытаў ён, нахіліўшыся да яе.

— Не, — прамовіла яна. — Зараз будзе, — і пайшла значна болей бадзёра. Правулак канчаўся. У канцы яго бачыўся заліты сьветам дом і шумная вялікая вуліца. Дзяўчына раптам пайшла зусім бадзёра. Яна сьціснула руку настолькі моц-

163

на, што ён зьдзіўлена паглядзеў на яе. Яны пайшлі да залітага сьветам дому. Правулак кончыўся.

— Ну цяпер куды? — спытаў Тугоўскі. — Далёка да вашага дому?

— А вось ён, — паказала яна на асьветлены дом.

— Тут? — са зьдзіўленьнем спыніўся Тугоўскі і вырваў сваю руку з рукі дзяўчыны. Ён нават адступіў некалькі крокаў назад. На дзявярох дому было напісана: "Рэстаран".

— Гэта ваш дом, вы тут жывяце? — спытаў не веручы сваім вачам.

— Так, — засьмяялася яна. — Пойдзем... С, мавацъ ня будзеце.

— Дык вось як, — вырвалася з вуснаў Тугоўскага. — А я думаў...

— ...што я хворая? — засьмяялася яна. — Ну нічога, мой хлопчык, мой студэнчык. Вы, я бачу студэнт. Па вашаму акцэнту чую, што ня чэх. што ж, зайдзем. Студэнты мае частыя й кахан госьці. — Яна ўзяла яго пад руку. Ён пярэчыў слаба. Ён спомніў, як яму было прыемна, калі ён шукаў яе сэрца... Ён першы раз слухаў жаночае сэрца. Алкаголь рабіў свае ўплывы на яго разьбітае, не пасьпеўшае расквесьці каханьне... Эх, што будзе, то будзе. Ён увайшоў з сваей паненкай. Высокі, выцягнуўшыся ў струну, лёкай паказаў ім дарогу ўніз па шырокай драбіне, засланай чырвоным каберцам. Яны прайшлі міма ў невялікі і шоўшы паўкругам пакой, абіты сьветла-нябеснымі шпалерамі, пасярэдзіне якога стаяў круглы чорны столік, удоўжань сьцяны вылучаўся мяккі дыван. За сьцяной аслабявала і ўсё шырылася пьяная музыка...

Не пасьпелі яны зачыніць за сабой дзьверы, як

164

у пакой зайшоў лёкай, той самы, што паказываў дарогу, й паставіў паднос з бутэлькай віна й бакаламі на стол. У тую самую мінуту ён моўчкі працягнуў Тугоўскаму рахунак на крупную суму ў сто чэскіх карон. Як ня быў ахоплены флэкаўскім півам Тугоўскі, ён зразумеў, што ўся гэта бутэлька ня варта гэтых грошаў. Ён рашуча запратэставаў...

— Гэта самы лепшы партайн, — прамовіў ласкава лёкай.

— Мілы! — абвіла паненка за шыю рукамі. — Сорам было-б займацца гэтай сумай.

Тугоўскі перастаў пярэчыць, выцягнуў парт... і паклаў на паднос зялёненькую паперку ... крон.

— Ого, у цябе шмат грошаў, — прамовіла паненка, заглянуўшы ў яго партманэ: — Купі мне папірос.

Лёкай, не чакаючы адказу Тугоўскага, зараз выцягнуў з кішэні фрака пачку папірос. Тугоўскаму гэта не падабалася. Усё ж ён не такі ... быў, каб не зразумець, што з ім робяць н...га нядобрае. Але, не жадаючы больш спрачацца, ён моўчкі заплаціў за папіросы. Нарэшце яны засталіся адны. Лёкай пасьпяшыў выйсьці. Можна было ім рабіць, што яны жадалі. Яны былі схаваны ад усіх людзей, ад усяго сьвету, ад усіх маральных законаў. З кожным выпітым бакалам ён рабіўся больш і больш прагавітым да ласкі, да жанчыны, каторую ён шукаў цэлае жыцьцё, а яна рабілася больш студзёнай, мармуровай... Яна сьмяялася студзёным каменным сьмехам.

— Ну, цалуй мяне, мой мілы студэнчык... Бяры маё сэрца.

Але ні адзін мускул яе не ажывіўся, ні адна частка цела яе не магла жыць, не магла адчуваць.

165

Ён цалаваў мяккі студзёны камень, і пакуль у яго яшчэ была памяць, ён адчуваў нейкае незадавальненьне. Але потым усё стала яму прыемным. Потым зьлілось усё ў густы туман.

Калі ён прабудзіўся, ён убачыў, што ўжо сьвет льецца адкульсьці з вышыні вузкай палоскай. Праз вузкую палоску шкла ў столі відproperly ногі праходзіўшых па вуліцы, шыны аўтамабіляў, фурманак. Жыцьцё кіпела, вуліца рухалася, як велізарны мурашнік, ні на мінутку не спыняючы сваёй бегатні. Дзесь было змаганьне, была чэсная праца, дзесьці біліся за існаваньне людскае, а ён ляжаў, згубіўшы ўсякае разуменьне аб прастору, аб часу, аб тым нават, дзе ён. Як папаўся ён сюды? Ён ускочыў на дзіване і пачаў шукаць тую, якая прывяла яго ў гэты пакой. Яе і сьлед прастыў. Ён з жахам схапіўся за сваё партманэ. Толькі два даляры сіратліва ляжалі сярод дакументаў. Тыя грошы, якія ён атрымаў у лік стыпэндыі за паўтара месяца, зьніклі невядома як, толькі адны ўспаміны ў відзе рахункаў, напісаных алавіком, сьведчылі аб іх колішнім існаваньні. Ён схапіўся за галаву. Што ён будзе рабіць зараз у Празе з двума далярамі? І як ён паедзе цяпер на Бацькаўшчыну? Што ён нарабіў?

Ён ускочыў з дывану. Трэба шукаць каго-небудзь, трэба атрымаць тлумачэньне. Ён выйшаў з пакою, падняўся па драбіне з чырвоным каберцам, заглянуў у розныя пакоі, але нідзе не нашоў ніводнай душы: здавалася, што гэта быў нейкі зачараваны дом. У адным пакою ён убачыў нейкую тоўстую бабу з закасанай спадніцай, мыўшай падлогу.

— Вам што трэба? — запытала яна.

— Я шукаю адну паненку, — пачаў Тугоўскі.

166

— Ніякай паненкі тут няма. Я тут адна. — Яна павярнулася й хлопнула перад яго носам дзьвярмі. Ён стаяў і раздумываў. Раптам нешта кальнула яго. Ён ледзь не прысеў ад болі. Заразіўся! Студзёны пот выбіла на чале. Задрыжэлі рукі і ногі. Ён сеў на стаяўшае зблізу стула. Галаву калола неадступная думка: "Схапіў дурную хваробу. Першы раз у сваім жыцьці прытуліўся да жанчыны, згубіў нявіннасьць дзеля таго, каб згубіць усё жыцьцё. Як дзіка! Хутчэй адсюль..." Ён апрануў сваё зімовае пальто й вышаў на вуліцу. З жахам заглянуў ён на гэты дом, дзе было напісана "Рэстаран" і дрыжачаю рукой запісаў адрас: калі-небудзь, калі можа быць выявіцца запраўды, што ён атрымаў дрэнную хваробу, ён пацягне рэстаран да судовай адказнасьці. "Хаця, — падумаў ён зараз жа, — што я магу зрабіць з рэстаранам. Ён скажа, што я прывёў дзяўчыну з вуліцы, а за гэта ён ня можа нясьці адказнасьць. Як дзіка! Як страшна! Мала таго, што няма грошаў, але няма больш чыстаты, няма здароўя. Ён будзе хадзіць з праваліўшымся носам. Ах, хоць-бы мінула яго гэтая кара". Ён ляцеў, як непрытомны, у інтэрнат, спадзеючыся, што там знойдзецца нямала спецыялістаў па вэнэрычных хваробах. Але каго запытаць?

У інтэрнаце яму папаўся сьпявак Серада, чалавек, у каторага не кожны дзень бываў палудзень, чалавек, каторы жыў тым, што хадзіў па рэстаранах й падчас абеду падсаджваўся да сваіх сяброў,

167

сьпяваючы ім свой сібірскі раманс: "Ах, Соня, мая чэска Соня". Гэты чалавек, зразумела, ведаў аб розных хваробах. Але запытаць яго, каб ён расказаў з насьмешкай па ўсяму інтэрнату, што ў Тугоўскага дрэнная хвароба, было-бы глупствам. Ён зьвярнуўся да астральнага чалавека:

— Скажыце, як зьяўляецца сіфіліс?

— А што? — зьдзівіўся астралёг. — Чаму вас гэта зацікавіла? Схапілі?

— Ня ведаю, — чырванеючы, сказаў Тугоўскі.

— Хвароба зьяўляецца на другі тыдзень, — сказаў астралёг, — зьяўляюцца падазроныя гнойныя плямы.

— Ах так... Дзякую... — І ён супакоены пайшоў хадзіць па карыдоры.

Ён нідзе ня мог знайсьці мейсца. Што нарабіў ён, што будзе зараз з яго паездкай на Бацькаўшчыну, з яго апрашчэньнем? Ён зьбіраўся ехаць чыстым ідэальным юнаком, а зараз ён павязе з сабою бруд, ён павязе з сабой жахлівую хваробу вялікага места. Фактычна ён ніскольк ня лепш за тых, на якіх ён нападаў, як на кар'ерыстаў, буржуазных "інтэлігэнтаў"... Ён брудны, нягодны, няварты насіць імя чалавека.

Ён доўга лаяў сябе і доўга хадзіў па карыдору інтэрнату. Але нарэшце холад прымусіў яго вярнуцца да рэчавітасьці і ўспомніць пра палудзень. Аднак на гэты раз задаволіўся толькі адной сарбанкай з хлебам і ўвесь апошні дзень праляжаў як хворы ў пасьцелі.

X

У гэты самы час беларускія студэнты безупынку

168

грызьлі граніт навукі. Іх мала відалася ў Студэнцкім доме, мала й рэдка яны спыняліся для гутарак і толькі па некалькі хвілін пасьля палудня дзяліліся ўражаньнямі ад экзаменаў. Момант быў вельмі сур'ёзны. Канчалася зіма, у паветры ўжо насіліся цёплыя вясновыя вятры, прафэсары заканчывалі чытальныя курсы другога, апошняга семестру. Адны студэнты павінны былі прайсьці на наступныя курсы, другія ўжо падыходзілі да дыплёмных прац і дактарату. Праца кіпела. Нават хто цэлы год гуляў па Празе, больш паглядаючы за яе цікавасьцямі, чым за навукай, то ў апошні момант схапіўся, каб вярнуць загубленае. Пачыналіся запраўды скокі з перашкодамі. У гуртах зьбіраўшыхся хто - небудзь заўсёды апавядаў сьмешныя выпадкі, як валіліся студэнты.

— За кожны экзамен трэба было плаціць грошы. Так што правам: "Мяне ўжо зазначыў высокі турак", — другі раз не пакарыстаешся. Касір на тэхніцы ўсіх ведае па прозьвішчу. Як толькі я прыходжу плаціць грошы за экзамен, ён голасна пытае мяне: "Вы ізноў праваліліся на экзаменах?"

Студэнты хахаталі.

— А прафэсары, грамадзяне, — сьмяяўся маленькі чорненькі тэхнік Жук, — ужо робяць скідкі: бяруць толькі два разы за экзамен. На трэці раз студэнт ідзе ўжо экзаменавацца бясплатна.

— Не махлюй, — казаў абражаны Бурак пад хохат.

— Ну, вось, скажы ты мне, — запытаўся яго насьмешліва Кірыла, — ты здаваў заолёгію?

— Здаваў.

— Ну вось скажы тады: анёба будзе такая? — Ён расшырыў рукі на чвэрць аршына.

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 42.

## АБ'ЯДНАЛА ЛЮБОЎ ДА ПЕСНІ

**Ад дваццаці да сямідзесяці гадоў — узрост удзельнікаў фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Астранка" з вёскі Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна. Аб'яднала гэтых людзей любоў да народнай песні. У рэпертуары калектыву — больш за сорак мелодый. Але далёка не вычарпана фальклорная крыніца, бо вёска Стары Дзедзін адзначыла нядаўна сваё тысячагоддзе. А таму будзе папаўняцца рэпертуар і надалей.**

**НА ЗДЫМКУ: фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Астранка".**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**



# «АПОШНІ СВОЙ СКАРБ АДДАЮ»

### *ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Максіма БАГДАНОВІЧА*

З публікацый Т. Кароткай "Тут нараджалася слова" ("Голас Радзімы", 1983, 15 верасня) і "Радок у біяграфію паэта" ("Літаратура і мастацтва", 1983, 7 кастр.) стала вядома, што чатырохгадовы Максім з братамі Вадзімам і Лёвам разам з маці правёў вясну і лета 1895 года ў сваёй цёткі Сцепаніды Апанасаўны, муж якой Франц Секержыцкі служыў аб'ездчыкам непадалёк ад чыгуначнай станцыі Асіповічы. Відаць, "гродзенскіх" і "асіповіцкіх" уражанняў для таленавітага дзіцяці было дастаткова, каб далучыцца душою да роднага краю. Ракуцёўскае лета 1911 года было таксама не эпізодам, а важным этапам у жыцці паэта-юнака. Бо ўжо праз год пасля гэтай падзеі ён прыслаў у рэдакцыю "Нашай нівы" рукапіс "Кніжкі выбраных твораў" — амаль гатовы паэтычны "Вянок".

Ці пад сілу быў гэты подзвіг зусім маладому паэту, які, паводле меркаванняў даследчыкаў, вывучаў родную мову па лексічных і фальклорных зборніках? Хутчэй за ўсё адбылося нешта іншае: у ранім дзяцінстве маці-Беларусь "запісала" сваю мову на чыстых лістах уражлівай душы свайго сына, напявала яму свае песні і казкі ў сне, пазначыла крыжам хрышчэння на любячым сэрцы дзіцяці. А другое, сталае хрышчэнне адбылося летам 1911 года ў Вільні і Ракуцёўшчыне: прычашчэнне духоўным вінам Бацькаўшчыны.

Відаць, даследчыкі прынялі за кніжнае вывучэнне роднае мовы волатаўскую працу над словам — рэч звычайную і штодзённую для кожнага прафесійнага паэта. Не варта браць на веру меркаванне В. Ластоўскага ("Мае ўспаміны аб М. Багдановічу", — "Літаратура і мастацтва", 1989, 22 лістап.), быццам бы тады, у 1911 годзе, "мову М. Багдановіч знаў яшчэ дрэнна і, гаворачы, збіваўся на маскоўшчыну". Майстэрства вуснага маўлення залежыць хутчэй ад штодзённай практыкі, ад жывога сумоўя, а не ад глыбіні пазнання мовы. Сёння майстры беларускага слова, штодзённа жывучы ў рускамоўным асяроддзі БССР, якое запанавала нават у іхных сямейках, часта-густа "збіваюцца на маскоўшчыну", непрыемна ўражваючы школьных настаўніц. І гэта цяпер, калі, скажам, у нашым Доме літаратара альбо на філалагічным факультэце можна пачуць чыстую беларускую гаворку. А для аўтара "Вянка" наогул не было куды пайсці, каб зазірнуць на "адзенне душы" аднамоўцы і па ёй скарэкціраваць сваё беларускае маўленне. Восьу якіх умовах ствара-

лася "зачараванае царства" ягонай паэзіі!

Далучэнне Максіма Багдановіча да "нашаніўскай" паэзіі пачалося з адраджэнскай сімволікі. Яму, малодшаму сучасніку Купалы, Коласа і іх паслядоўнікаў, у гэтай галіне належыць бясспрэчны прыярытэт. Прыйшоўшы ў літаратуру некалькімі гадамі пазней за сваіх настаўнікаў, ён не толькі шчасліва пазбегнуў [illegible]гонства, але з першых жа па[illegible]ых крокаў стаў наперадзе іх [illegible]а "сімвалічным" участку нацыянальнай літаратуры, якая яшчэ толькі стваралася. Успомнім: першы твор М. Багдановіча апавяданне-эскіз "Музыка" друкаваўся 6 ліпеня 1907 года ў "[illegible]й ніве". Толькі яшчэ пачына[illegible] трэцяя хваля нацыянальнага Адраджэння (першая дала нам пачынальнікаў новай беларускай літаратуры XIX стагоддзя, К. Каліноўскага і В. Дуніна-Марцінкевіча, а другая — Ф. Багушэвіча, Янку Лучыну і А. Абуховіча). Толькі праз год выйдзе ў свет першая паэтычная кніжка Янкі Купалы "Жалейка". Тады яшчэ не склаўся ў Купалы спецыфічна беларускі сімвалізм і рамантычная канцэпцыя творчасці як звернутага да народа прароцтва. Коласава паэма "Сымон-музыка" з'явіцца толькі праз дзесяць гадоў. Былі, праўда, выдадзены за мяжой Расійскай імперыі "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" Ф. Багушэвіча ды "Скрыпачка беларуская" Цёткі — назвы, відавочна, сімвалічныя для нацыянальнага Адраджэння; але тады іх сімвалічны сэнс яшчэ не быў усвядомлены літаратурнай грамадскасцю і ўспрымаўся як знак этнаграфічнай народнай культуры, з якой і пачыналіся вытокі нацыянальнай літаратуры.

Багдановічаў "Музыка" таксама паходзіць адтуль, з фальклору, але ў гэтым просценькім эскізе ёсць ужо свядомая ўстаноўка на стварэнне паэтычных сімвалаў. У ім пазначана драма станаўлення новай нацыі, якую не хацелі прызнаць злыя і моцныя людзі, выкрываецца гістарычны падман, спроба чужых туркаў і сваіх янычараў падмяніць самую душу народа, падсунуць яму чужыя каштоўнасці.

Сёння вобраз Музыкі прызабыўся ў грамадскай свядомасці, хоць і назаўсёды застаўся нашым літаратурным сімвалам, асабліва пасля выхаду ў свет геніяльнай паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка". Затое другі адраджэнскі сімвал — сінявокі васілёк застаўся паэтычнай метафарай Беларусі і нават замацаваўся ў масавай культуры. А яго паэтычны радавод пачынаўся з верша М. Багдановіча "На чужбіне" (1908), упершыню апублікаванага 15 кастрычніка 1909 года ў "Нашай ніве". Яшчэ не былі створаны чарадзейныя санаты "Зачараванага царства", калі паэту прыснілася гэтая кветка Беларусі: "Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць, // Маркотна між іх я хаджу адзінок, // Аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае // Наш родны, забыты ў цяні васілёк. // "Здароў будзь, зямляча!" — Чуць бачны ў даліне, // Панура, нявесела шэпча ён мне: // "Успомні, мой дружа, ў багатай чужбіне // Аб беднай, далёкай сваёй старане".

Верш "На чужбіне" сімвалічны яшчэ ў іншым плане. Сапраўды, паэт жыў у Расіі, вакол яго прыгожа красавалі кветкі блізкай яму, але не роднай культуры. Ён ведаў яе, але заставаўся самотным, пакуль не прыкмеціў "забыты ў цяні васілёк" — сімвал Беларусі, роднай мовы і культуры. А ўспомніў "у багатай чужыне" сваю "бедную, далёкую старонку", аддаў жыццё сваё дзеля яе адраджэння і духоўнага ўзбагачэння. Урэшце, васілёк у жыцце меў яшчэ для нашага паэта іншы, агульначалавечы сімвалічны сэнс, пазначаў мастацкія і духоўныя каштоўнасці наогул.

Так спакваля ўзнікала трохчастковая паэтычная саната васілька. Верш-васьмірадковік "На чужбіне" быў яе экспазіцыяй, дзе пазначаны нацыянальна-спецыфічны сэнс тэмы. Пазней ён вярнуўся да яе распрацоўкі ў апавяданні, ці, больш дакладна, евангельскім белым вершы "Апокрыф", апублікаваным у "Каляднай пісанцы" за 1913 год. У яраслаўскай "Северной газете" (1—2 студзеня 1914 года.) твор друкаваўся ў аўтарскім перакладзе пад назвай "Притча о васильках". Пра тое, што М. Багдановіч уклаў у гэты твор свае самыя патаемныя думкі пра чалавека і мастацтва, сведчыць лірычная форма выказвання ("ад Максіма Кніжніка пачатак") і жанр евангельскага сказу — свайго роду добрая звестка пра Бацькаўшчыну, народ, яго сапраўдныя каштоўнасці.

З трох частак гэтай сімвалічнай санаты васілька М. Багдановіч уключыў у "Вянок" сваёй паэзіі толькі заключную песню-рэпрызу "Слуцкія ткачыхі". Любімая народная кветка ў "Апокрыфе" выступае сімвалам быційнай рэальнасці — народнай душы, духоўных каштоўнасцей, аб'ектываваных у гісторыі і нацыянальнай культуры народа. Яна з'яўляецца там яшчэ разгорнутай метафарай, вобразна выяўляе эстэтычныя погляды аўтара. У лірычным шэдэўры "Слуцкія ткачыхі" паэтычны сімвал пераносіцца ў таямніцу суб'ектыўнай душы таленавітых жанчын-мастачак, якія, паводле мастацкай праўды, а не эмпірычнай гісторыі, ткалі славутыя на ўвесь свет залатыя паясы.

Паводле беларускіх народных традыцый, ткацтва — спрадвечная жаночая справа, а мужчына-ткач выглядае фігурай крыху камічнай, гратэскавай. (З гісторыі мы ведаем, што ткачы перыяду мануфактурнай вытворчасці — пераважна мужчыны, а майстры слуцкіх паясоў былі яшчэ выдатнымі ювелірамі). Вобраз мужчыны-ткача не стварыў бы таго высокага лірычнага драматызму, якога дасягнуў М. Багдановіч з першых радкоў сваёй песні: "Ад родных ніў, ад роднай хаты // У панскі [illegible] дзеля красы // Яны, бяздоль[illegible], узяты // Ткаць залатыя паясы". А яшчэ паэт імкнуўся стварыць тут сардэчна-душэўны, лірыка-мастацкі вобраз Бацькаўшчыны, а не той яе духоўна-гераічны і мужны пачатак, які [illegible] узнёсла загучаў пазней у [illegible] "Пагоня". За доўгія часіны [illegible]анскім двары, ткучы "шырокія тканіны на лад персідскі", ткачыхі забылі свае "дзявочыя сны". Але думкі міжволі імкнуліся "туды, дзе расцвіла вясна; // дзе блішча збожжа ў яснай далі, // Сінеюць міла васількі". І вось адпалі класічныя каноны: "І тчэ, забыўшыся, рука, // Заміж персідскага ўзора, // Цвяток радзімы васілька".

М. Багдановіч справаю даказаў, што ён умее грунтоўна даследаваць гісторыю і культуру беларусаў ды іх братоў-славян. Але ў мастацтве ён заставаўся лірыкам. У гісторыі роднага краю паэт адкрываў непаўторную чалавечую асобу, паўнату і напружанасць душэўнага жыцця, выявіўшы пры гэтым надзвычайную сілу мастацкай інтуіцыі, якая, быццам у кінематографе, ахоплівала жывую плынь далёкай мінуўшчыны ("Леталісец", "Агата", "Песня пра князя Ізяслава Полацкага " і інш.).

Паэт пражыў кароткае жыццё ўдалечыні ад сваёй любові — апетай ім Бацькаўшчыны. Ці не таму ён так пранікліва сказаў пра беларусаў-уцекачоў у "Эмігранцкай песні"? Ці ёсць у сусветнай лірыцы твор такога трагічна-светлага гучання пра нявольных эмігрантаў? Драматызм песні грунтуецца на кантрастным супастаўленні двух псіхалагічных тыпаў і чалавечых лёсаў. Вось тып спрадвечнай "варажскай" вольніцы: "Ёсць на свеце такія бадзягі, // Што не вераць ні ў Бога, ні ў чорта. // Ім прыемны стракатыя сцягі // Караблёў акіянскага порта". Ім усё роўна — жыць ці загінуць. Абы толькі "пабываць у краях незнаёмых ды зазнаць там і шчасце і гора". Не таго жадаюць беларусы-бежанцы: не расталіся б яны з родным краем, каб было дзеля іх у нас хлеба. І на вулках чужых гарадоў, пад грукат і гоман ім "маячыцца вёсачка, Нёман і агні партовыя Лібавы". Верыцца, што гэтыя людзі, павязаныя жывымі ніткамі душы з роднымі карэннямі, вернуцца ў свой край, каб адраджаць Бацькаўшчыну.

**Уладзімір КОНАН.**

Працяг. Пачатак у №№ 40 — 42.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

## ПРЫЗНАННЕ

**У пакоі паўзмрок. Я адзін,
А за вокнамі восень
Шапаціць у апалым,
пасохлым лісці.
Не прыпомню ніяк,
Што збылося і што
не збылося
У заблытаным нашым
З табою жыцці.**

**Можа, лёс, можа, рок,
Можа, шчасце ці гора
Нас насустрач вялі
Праз усе міражы,
Праз пяшчоты, давер,
Недавер і дакоры.
І вядуць, як вялі,
Да апошняй мяжы.**

**Наша горкая доля
За намі цікуе заўсёды.
У пакоі паўзмрок,
А за вокнамі дожджык
імжыць.
Я адзін. Вось і выпала
ўрэшце нагода,
Каб прызнацца, што дня
Без цябе не пражыць.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## МАЛІТВА

**Я ў свеце настолькі адзін,
Я ў свеце настолькі
маленькі,
Што памяці сцёртай
каленькі
Збіваю,
Паўзу ў напамін,**

**Каб Бог не забыўся мяне,
Ды я перад Богам маленькі,**

**Мае Ён не ўчуе маленні
І нават уніз не зірне.**

**Як спусціцца Бог на зямлю,
Дык я, перад небам
маленькі,
Даткнуся да лёгкай кавенькі
І крыўды на попел спалю.**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

## СТРАЛА

**У вадзе халоднай
праплываюць цені.
Човен серабрысты
зачарпнуў вады.
І вясло сплывае,
і стралок пацэліў
У другую постаць.
Зловяць чараты
Тонкімі рукамі
ўцекачоў знямелых.
А стралок устане
з мокрае травы.
Абтрасе адзенне,
пералічыць стрэлы
І па грошы пойдзе
ў замак радавы...
Спіць срабрысты човен
у тумане срэбным.
Прада мной — папера,
а ў руцэ — агонь.
І праз чысты аркуш
працякаюць цені,
І стралок у лозах
грэе, трэ далонь...
Дай паплыці думкам
срэбнымі радкамі —
Знойдзецца да сэрца
гостры шлях стралы,
Замак, дзе заплацяць,
і магільны камень,
І анёльскіх, белых,
лёгкіх два крылы.**

**Максім ТАНК**

## ЛІТАНІЯ

**Я не прашу ў цябе спагады,
Ні ўзнагароды і ні ўлады.**

**Дай толькі ты маёй краіне
Мір і спакой пад небам сінім,**

**На бацькаўскай страсе —
буслянку,**

**Шыпшынавы куст —
каля ганка,**

**Калоссе шчодрае — на ніве,
Напеваў родных пералівы,**

**А ў засені дубровы недзе,
Дзе спяць мае бацькі,
суседзі —**

**Хоць непрыкметную мясціну**

**Свайму тулягу, адпачынак.**

**За што гатоў я свой аўтограф**

**Паставіць пад любы цырограф.**

